Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года | 20 (580) 19 траўня 2011 года | Кошт свабодны.

Полацкі раён

# Бізнес малы – аддача вялікая

■ Станіслаў Раманчук.

**Апошнім часам і на Віцебшчыне пачаў актыўна развівацца малы і сярэдні бізнес.**

Толькі летась у вобласці ў аддаленых рэгіёнах было створана каля 20 новых прадпрыемстваў і вытворчасцей па адпаведнай праграме развіцця глыбінкі. Дарэчы, зараз у Прыдзвінні дзейнічаюць больш за 37 тысяч розных прадпрымальніцкіх структур і індывідуальных прадпрымальнікаў. Не стаў выключэннем і Полацкі раён, дзе прыватны сектар найбольш паспяхова адчувае сябе ў гарпасёлку Ветрына. У самім жа Полацку ўжо працяглы час паспяхова працуюць дзясяткі прыватных прадпрыемстваў. Горад гатовы прапанаваць інвестарам шэраг новых перспектыўных праектаў. Па суме мясцовых бюджэтных паступленняў бізнесоўцы Полаччыны на лідзіруючых пазіцыях у вобласці, доля іх плацяжоў дасягнула ўжо 40 працэнтаў. Суседні буйны прамысловы цэнтр – Наваполацк – таксама прыцягальны ў плане супрацоўніцтва для замежных інвестараў яшчэ і як удзельнік праекта ААН па ўстойлівым развіцці мясцовых рэгіёнаў. У горадзе нафтахімікаў цяпер паспяхова працуюць некалькі дзясяткаў прыватных фірм. Адна з іх, ААТ “Белсплат”, добра вядомая ў Беларусі як вытворца дамафонных сістэм і абсталявання ахоўнай сігналізацыі. Для маладых гараджан, выпускнікоў білігвіністычных класаў школ горада, з’явілася магчымасць вучыцца ў ВНУ Францыі.

Лепельскі раён

# Чарка да дабра не даводзіць

■ Чэслаў Якубовіч

**Быццам усе і ведаюць, што нападпітку садзіцца за руль любога транспарту нельга. Аднак штогод паўсюдна затрымліваюцца сотні такіх гора-вадзіцеляў, асобныя з іх нават па некалькі разоў за год, за што прадугледжана крымінальная адказнасць.**

Вось і ў Лепельскім раёне такі жыхар у нецвярозым стане выехаў на трасу і неўзабаве на сваім аўтамабілі ўрэзаўся ў будынак ... аўтазаправачнай станцыі. У такі непрыемны для сябе момант ён успомніў, што за некалькі месяцаў да гэтага інцыдэнту ўжо прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за кіраванне аўто ў нецвярозым стане. Калі зразумеў, што за такую правіннасць паўторна панясе яшчэ большае пакаранне, вырашыў паспрабаваць адкупіцца. Супрацоўніку райаддзела ДАІ быў прапанаваны хабар памерам 400 тысяч рублёў, каб не афармляць пратакол. Але міліцыянер дзейнічаў па законе і даў гэтай справе, якая стала ўжо крымінальнай, ход. Вадзіцель можа пайсці пад суд адразу па 2-х артыкулах: за спробу даць хабар і за паўторнае на працягу года ваджэнне свайго аўто нападпітку. Днямі падобная справа ў вобласці была ўзбуджана супраць вадзіцеля, грамадзяніна Расіі. Той, праўда, ехаў за рулём цвярозы, але не меў суправаджальных дакументаў на груз. Па звычцы, якая пануе на расійскіх дарогах, ён спрабаваў адкупіцца ад беларускага ДАІ сумай у 6 тысяч расійскіх рублёў. Па гэтым факце расіянін прадстане перад судом.

Пастаўскі раён

# Калі ў галовах пуста

■ Кастусь Александровіч

**Штогод большасць жыхароў Пастаў радуюцца і атрымоўваюць асалоду ад сустрэчы з сапраўдным народным мастацтвам.**

Аднак знаходзяцца і такія гора-чалавекі, якія сваю злосць на жыццё выплёскваюць на ўсё, што толькі пападаецца на вочы. Адным з такіх месцаў, якому найбольш дастаецца ад сучасных вандалаў, стаў гарадскі парк з летнім амфітэатрам. Спачатку будучай галоўнай пляцоўцы Міжнароднага фестываля народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік” не пашанцавала ў красавіку. Хуліганы тады моцна пашкодзілі распранальню артыстаў, пававалі драўляную скульптуру музыканта, напаўразбурылі прыгожую “альтанку-лебедзь”, шмат дзе ў парку пакінулі хамскія надпісы. Але гэта былі яшчэ кветачкі, паколькі чарговая “бура” наляцела ўжо цёплымі майскімі начамі. За некалькі тыдняў да пачатку фестываля сюды зноў наведаліся мярзотнікі. Ад рук зламыснікаў былі моцна пашкоджаны яшчэ дзве альтанкі для адпачынку людзей. Дасталася і грамадскаму туалету і іншым малым архітэктурным формам. Зразумела, на выпраўленне ўсіх такіх стыхійных “бедстваў” пойдуць дадатковыя фінансавыя сродкі. І не паставіш вакол падобных аб’ектаў кругласутачную ахову, хоць адсюль да райаддзела міліцыі недалёка. А вось задумацца аб культуры паводзін шэрагу грамадзянам даўно патрэбна, як і адшукаць хуліганаў і пакараць іх па ўсёй строгасці закона.




**600000** столькі чалавек у Беларусі ў пачатку мая былі без работы па ініцыятыве адміністрацыі з-за фінансавага крызісу. З кожным днём такая трывожная абстаноўка толькі пагаршалася, прадстаўнікі прадпрымальніцкіх структур називалі яшчэ большую лічбу працаўнікоў, вымушаных пакінуць свае рабочыя месцы. На фоне працяглых майскіх выхадных неяк забылася, што ў сталіцы і ў рэгіёнах сталі прастойваць фірмы і арганізацыі з-за немагчымасці купіць матэрыялы і камплектуючыя і праблем з рэалізацыяй рэзка падаражэўшых тавараў.

Аднак для спецыялістаў гэта не было нечаканасцю, паколькі Беларусь даўно ўжо жыла не па сродках, а сёлета гэта стала найбольш відавочна. Па апошніх афіцыйных дадзеных статыстыкі, толькі ў сакавіку 2011 года адмоўнае сальда знешняга гандлю Беларусі таварамі і паслугамі склала яшчэ 880 млн. $, нягледзячы на тое, што вясной былі ўведзены абмежаванні на валютным рынку. З пачатку года сітуацыя стала проста пагражальнай: у лютым адпаведнае сальда было яшчэ большым (921 млн. $). У гэтым годзе і студзень не парадаваў, паколькі такі мінус склаў яшчэ 554 млн долараў.

Такім чынам, за чвэрць года сёлета адмоўнае сальда дасягнула 2,355 млрд. долараў, што ў 3,5 разы (!) болей, чым было на адпаведную дату ў 1-м квартале 2010 года. Падобна на тое, што старт новай пяцігодкі супаў з надзвычай няпростым эканамічным і валютным крызісам і балюча ўдарыў па ўсіх беларусах. Нават міністр эканомікі РБ Мікалай Снапкоў ужо не выключае зніжэння прагнознага росту ВУП краіны на гэты год. І будзе няправільным тлумачыць складанае становішча толькі закупкамі іншамарак насельніцтвам на суму больш за 1 млрд. долараў альбо ўзнікшым ажыятажам вакол абменнікаў.

Апошнія 5 гадоў на фоне негатыўных момантаў развіцця эканомікі краіна залазіла ў даўгі. Яшчэ ў мінулым годзе пры вялікім адмоўным знешнегандлёвым сальда прыток замежнай валюты ў Беларусь скараціўся на 1 млрд. $.

Аднак аб’ёмы вытворчасці раслі, адначасова трацілася шмат валюты на закупку камплектуючых матэрыялаў, энерганосьбітаў (яны складаюць да 70 % кошту экспартных тавараў). Як вынік, золатавалютныя рэзервы краіны зменшыліся летась на 0,62 млрд. $, а ў студзені сёлета скараціліся на рэкордныя 0,57 мільярда долараў. Валюты стала не хапаць для падтрымкі афіцыйнага абменнага курсу беларускага рубля.

Таксама зменшыліся і значныя замежныя паступленні валюты, за выключэннем папаўнення 0,8 млрд. долараў ад размяшчэння еўрабондаў. Крэдытны рэйтынг Беларусі пачаў зніжацца, хоць беларускі доўг не такі істотны на фоне многіх іншых краін свету. Разлікі ўрада на прырост валюты не спраўдзіліся, бо інвестары не вераць, што беларусы будуць праводзіць ліберальныя рэформы і развівацца па рыначных прынцыпах. Тым больш, што ў нас рашыліся на ўвядзенне зноў множнасці валютных курсаў. Прыватны сектар аказаўся ў пройгрышы ў параўнанні з буйнымі дзяржаўнымі прадпрыемствамі.

Па разліках спецыялістаў, каб уся валюта паступала ў свабодны продаж, то валютны курс долара усталяваўся б дзесьці на ўзроўні 4000 руб/USD. Аднак самае сумнае, што такая разавая дэвальвацыя айчыннай валюты не вырашыць усіх эканамічных праблем. Пра гэта адкрыта не гавораць, але горкая праўда ў тым, што мноства прыватных прадпрыемстваў, пераважна дробных і сярэдніх, проста вымушаны будуць спыніць сваю дзейнасць. Наперадзе зніжэнне дзяржаўных расходаў, рэжым істотнай эканоміі бюджэтных сродкаў і адчувальнае для насельніцтва зніжэнне ўзроўню жыцця. Як альтэрнатыва – прывязка да расійскага рубля і здача значнай долі суверэнітэту.

Пакуль жа ўзмацненне канкурэнцыі на рынку машынабудавання прымусіла нас пагадзіцца на ўваходжанне айчыннага брэнда, сталічнага МАЗа, у альянс з расійскім вытворцам КаМАЗам. У бліжэйшыя два месяцы зніжэнне росту цэн мала верагодна, інфляцыя можа спыніцца бліжэй да ліпеня. Беларусь сёлета ўступіла ў складаны перыяд нестабільнасці. Трэба прывыкаць да новых цэн, і добра, калі прадукты харчавання стануць па кішэні большай частцы народа. Пра астатняе прамаўчым, тут бы элементарна выжыць.

## Надвор’е ў Глыбокім www.rp5ru

| | чацвер 19.05.11 | | | | пятн. 20.05.11 | | | | сб. 21.05.11 | | | | нядз. 22.05.11 | | | | пн.23.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +5 | +12 | +18 | +17 | +11 | +18 | +18 | +17 | +9 | +17 | +20 | +19 | +10 | +19 | +21 | +20 | +11 | +20 | +22 |
| Ціск, мм | 751 | 751 | 752 | 750 | 750 | 750 | 751 | 751 | 751 | 751 | 750 | 750 | 750 | 751 | 751 | 751 | 751 | 752 | 752 |
| Вільготнасць, % | 89 | 67 | 51 | 62 | 85 | 69 | 73 | 77 | 98 | 82 | 55 | 72 | 94 | 72 | 58 | 72 | 97 | 76 | 59 |
| Вецер м/сек | З 3 | З 3 | С-З 4 | Ю 3 | Ю 4 | З 4 | С-З 5 | С-В 2 | С-В 1 | Ю-В 1 | С 4 | С 1 | Ю 2 | Ю-З 1 | С-З 2 | В 2 | Ю 1 | Ю 2 | С-З 4 |

## Дзень за днём

**Роўна праз месяц пасля тэракта ў метро Нацбанк Беларусі пайшоў на дэвальвацыю айчыннай валюты, беларусаў бліжэйшыя некалькі гадоў чакае перыяд жорсткай эканоміі сродкаў. Белстат падлічыў, што аб'ём адмоўнага сальда айчыннага знешняга гандлю ў сакавіку сёлета павялічыўся яшчэ на 1,06 млрд. $. У маі па краіне істотна вырасла беспрацоўе, бо закрыліся многія магазіны, спынілі дзейнасць фірмы і арганізацыі з-за адсутнасці валюты. Краіна адсеялася ў аптымальныя тэрміны, а вось летні адпачынак у многіх беларусаў азмрочаны, бо няма за што ехаць на мора. Пенсіянераў крыху парадавала ўвядзенне да 30 верасня 50 % зніжак на праезд у прыгарадным транспарце.**

# Важнейшыя навіны свету

**Пакістан.** Большасць чалавецтва ўзрадавалася ліквідацыі амерыканскімі спецслужбамі сусветнага тэрарыста Усамы бен Ладэна.

**Расія.** З-за няхваткі паліва ў краіне расійскі ўрад павысіў з 1 мая экспартныя пошліны на светлыя нафтапрадукты з 67 да 90%, што моцна ўдарыла па беларускіх НПЗ.

**Бельгія.** Еўрапарламент выключыў Беларусь з ліку ўдзельнікаў Парламенцкай асамблеі Усходняга партнёрства "Еўранест", туды ўвайшлі Малдова, Украіна, краіны Закаўказзя.

**Коста-Рыка.** Былога прэзідэнта Мігеля Радрыгеса суд прызнаў вінаватым у атрыманні хабару ад кампаніі Alkatel (Францыя) і прызначыў яму 5 гадоў турэмнага зняволення.

**Лівія.** На мяжы з Тунісам адбыліся ўзброеныя сутычкі туніскай арміі і войскаў Муамара Кадафі, які ў тэлезвароце да НАТА паабяцаў змагацца да канца, не пакідаць краіну.

**Швейцарыя.** Па патрабаванні ўрада банкі замарозілі рахункі лідара Лівіі М. Кадафі (360 млн. франкаў), экс-прэзідэнтаў Егіпта Х. Мубарака (410 млн.) і Туніса Б. Алі (60 млн.).

**КНДР.** Краіна ўзначаліла спіс са 196 краін свету з найгоршым станам свабоды прэсы, у гэту сумную дзясятку трапілі яшчэ Куба, Іран, Бірма, Лівія, Туркменістан і Беларусь.

**Германія.** Газета "Frankfurter Allgemeine" адзначыла, што РБ апынулася на краі бездані, у гэтай сітуацыі Расія будзе імкнуцца не да "інтэграцыі", а да падпарадкавання суседкі.

**Польшча.** У цырымоніі беатыфікацыі суайчынніка, папы Яна Паўла II, у Рыме удзельнічала найбольш палякаў, звыш 250 тысяч паломнікаў.

**Кітай.** У самай густанаселенай краіне свету, па выніках перапісу насельніцтва, жыве 1 млрд. 340 млн. чалавек, за 10 год кітайцаў паболела на 73,9 млн., але нацыя старэе.

**Літва.** Глава МЗС краіны А. Ажубаліс заявіў, што як беларускі, так і расійскі праект узвядзення АЭС рэалізуецца з грубымі парушэннямі Канвенцыі аб ядзернай бяспецы.

**Латвія.** Краіна ніяк не можа вярнуцца да дакрызісных заробкаў (каля 1000 $) і мае цяпер 940 $ у сярэднім без падаткаў, Расія – 750 $, Літва – 890 $, Польшча – 1260 $ у месяц.

**Славакія.** На 75-м чэмпіянаце свету па хакеі правальна згуляла зборная Беларусі, хоць хакей у РБ– спорт № 1 і на яго выдаткоўваецца да 85 % усіх сродкаў, прадугледжаных на гэту сферу.

**Расія.** У Маскве развіталіся з яшчэ адным выдатным акцёрам, Аляксандрам Лазаравым–старэйшым, памерлым на 75-м годзе жыцця ўслед за М. Казаковым і Л. Гурчанка.

**Германія.** Канцэрн Volkswagen аб'явіў аб выпуску на сваіх заводах у Кітаі новых аўтамабіляў спецыяльна "для бедных" у аб'ёме да 4 млн. адзінак штогод да 2018 года.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** У РБ, як заявіла дырэктар НДІ Мінпрацы Святлана Шаўчэнка, магчымы рэзкі рост беспрацоўя і ўзнікненне сацыяльнага напружання, калі захаваецца такі фінансавы рынак.

**Салігорск.** В. а. гендырэктара ААТ "Беларуськалій" В. Кірыенка пацвердзіў, што прадпрыемства гатова ў маі прадаць свой пакет акцый Міжнароднай калійнай кампаніі.

**Мінск.** Без рынкавых рэформ і дэвальвацыі айчынную эканоміку, як заявіў фінансавы аналітык Сяргей Чалы, чакае крах, у далейшым сітуацыя можа яшчэ пагоршыцца.

**Мазыр.** Мясцовы НПЗ на 2 месяцы прыпыніў працу для правядзення рамонту, пастаўкі на завод азербайджанскай нафты па трубаправодзе "Адэса-Броды" таксама спыніліся.

**Астравец.** Мэр Вільні Артурас Зуокас наведаў месца будаўніцтва атамнай станцыі, якая вельмі турбуе літоўцаў, бо размесціцца на адлегласці ўсяго 50 км ад літоўскай сталіцы.

**Гродна.** За неабходнасць хутчэйшага правядзення сур'ёзных структурных рэформ у эканоміцы Беларусі выказаўся тут на семінары СМІ віцэ-прэм'ер урада Анатоль Тозік.

**Брэст.** У рэанімацыі абласной бальніцы памерла 32-гадовая мінчанка, якая стала 8-й ахвярай ДТЗ пад Маларытай, дзе сутыкнуліся мікрааўтобус і ўкраінскі аўтобус.

**Быхаў.** Міліцыя затрымала 26-гадовую мярзотніцу, жыхарку вёскі Асавец, якая задушыла ў сваім доме нованароджаную дачку і выкінула потым труп немаўляці на вуліцу.

**Пінск.** На сваёй радзіме пайшла з жыцця 65-гадовая беларуская пісьменніца Валянціна Коўтун (прозвішча Новік). За зборнік паэзіі "Метраном" (1986 г.) яна атрымала дзяржпрэмію.

**Мінск.** Падчас працэсу над удзельнікамі падзей на плошчы судмедэксперты не пацвердзілі, што там нібыта быў збіты спецназ міліцыі.

**Хатынь.** У мемарыяльным комплексе па ініцыятыве ксяндза з Лагойска Паўла Слукі ў 2-і раз адбылася св. Імша за ахвяр спаленых у вайну беларускіх вёсак (больш за 5 тысяч).

**Мінск.** З-за фінансавага крызісу датэрмінова пакінуў хакейную каманду "Дынама" абаронца зборнай Славакіі П. Падградскі, ён не можа забраць у банку зробленыя грошы.

**Мір.** Па прапанове ТБМ імя Ф. Скарыны "Белпошта" выпусціць мільённым накладам адразу 3 маркі з выявамі мясцовага замка з новай серыі 12 айчынных замкаў.

**Мінск.** З-за фінансавых праблем Федэрацыя футбола РБ скасавала прызавы фонд чэмпіянатаў Беларусі па футболе ў мужчын (0,5 млн. $) і жаночых каманд (150 тыс. $).

**Навагрудак.** Кансервацыю вежаў мясцовага абарончага замка, аднаго з буйнейшых у Цэнтральнай Еўропе ў XVI стагоддзі, запланавалі завяршыць у бліжэйшыя 5 гадоў.

## Мінэканомікі цалкам адпусціла цэны на вараную каўбасу, вэнджаніну, сыр, рыбу, цытрусавыя



■ interdax.by

**Мінэканомікі Беларусі сваёй пастановай N66 ад 27 красавіка зацвердзіла новы пералік харчовых тавараў, на якія захоўваюцца абмежаванні гандлёвай надбаўкі (з улікам аптовай).**

У адпаведнасці з пастановай, тэкстам якой валодае агенцтва "Інтэрфакс-Захад", гэты пералік істотна скарочаны ў параўнанні з раней дзеючым (з верасня 2008 года).

Так, у новы пералік тавараў, на якія распаўсюджваюцца абмежаванні па гандлёвай надбаўцы, не ўвайшлі: вараныя каўбасныя вырабы (у тым ліку сасіскі, сардэлькі, крывяныя і ліверныя каўбасы), вэнджаніна і паўвэнджаная каўбаса, мясныя субпрадукты, кісламалочныя прадукты (акрамя кефіру), вяршкі, тварожныя вырабы, сыры, іншыя малочныя прадукты.

Таксама з пераліку выключаны цукар-рафінад, рыба, рыбныя кансервы, цытрусавыя, бананы.

Акрамя таго, у новай пастанове істотна скарэктаваныя пазіцыі, паводле якіх дзеянне гандлёвых надбавак захоўваецца. Так, раней гандлёвыя надбаўкі распаўсюджваліся на пазіцыю "хлеб і хлебабулачныя вырабы". У новай рэдакцыі гэтая пазіцыя выглядае як "хлеб жытні і жытне-пшанічны, батоны і хлябцы з пшанічнай мукі няздобныя вагой 300 грамаў і больш, што адпавядае зацверджанай у красавіку пазіцыі ў пераліку сацыяльназначных тавараў, цэны на якія рэгулююцца Мінэканомікі. Гэта значыць, у адносінах астатніх хлебабулачных вырабаў зараз знятыя ўсе абмежаванні па цэнаўтварэнні. Раней усталёўвалася гандлёвая надбаўка на мясныя паўфабрыкаты.

Зараз удакладняецца, што гандлёвая надбаўка падыходзіць толькі да буйнакавалкавых паўфабрыкатаў.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Як высветліла следства, абвінавачаныя па справе тэракта ў метро Мінска выпрабоўвалі свае смертаносныя бомбы паблізу горада на своеасаблівым палігоне.

**Гарадок.** У вёсцы Віроўля расійская фірма-гаспадар калгаса пачала ўзводзіць 2-ю чаргу сучаснай фермы яшчэ на 600 кароў, тэхналогіі і абсталяванне тут з Галандыі.

**Орша.** На трасе Брэст-Масква ля вёскі Задроўе РУП "Віцебскаблгаз" да канца года ўвядзе у эксплуатацыю кафэ на 32 пасадачныя месцы, аўтазаправачную станцыю і шынамантаж.

**Верхнядзвінск.** Райкамунгас завяршыў рэканструкцыю цэнтральнай кацельні гарпасёлка Асвея, паставіў туды 2 новыя катлы на мясцовых відах паліва.

**Бягомль.** За высокія дасягненні ў працы ў 2010 годзе назва мясцовага завода "Ветразь" красавалася на абласной Дошцы гонару.

**Паставы.** Літоўскія бізнесмены прапанавалі пабудаваць у райцэнтры з насельніцтвам 20 тыс. чалавек першы гіпермаркет з гандлёвай плошчай 1,5 тысячы кв. метраў.

**Полацк.** На працягу 10 дзён па многіх прыходах мясцовай праваслаўнай епархіі падарожнічаў цудадзейны абраз Прасвятой Багародзіцы з Харкаўскай вобласці Украіны.

**Віцебск.** Студэнтка мясцовага тэхналагічнага дзяржуніверсітэта Бажэна Багінская стала "Каралевай Вясны", гэта адзін з самых прэстыжных студэнцкіх конкурсаў Беларусі.

**Расоны.** Хатняя гаспадыня Валянціна Свярдлова з вёскі Краснаполле ўзнагароджана ордэнам Маці за выхаванне дзяцей.

**Сянно.** У вёсцы Янова мясцовы вадзіцель ГАЗа нанёс смяротную траўму прыехаўшаму сюды ў госці 3-гадоваму хлопчыку з Віцебска, які раптоўна выскачыў на роварах пад аўто.

**Орша.** У затрыманага міліцыяй жыхара горада знайшлі і канфіскавалі 9 фальшывых банкнот вартасцю 100 $, лжэвалюту ўвезлі з Расіі.

**Верхнядзвінск.** На пагранзаставе "Савейкі" ў парадку эксперыменту сталі ахоўваць дзяржмяжу РБ ля Асвейскага возера на конях тракененскай пароды.

**Лёзна.** У царкве Крыжа Гасподняга, якая зараз рэстаўруецца, загучаў знойдзены старажытны царкоўны звон, яшчэ нядаўна ў гэтым раёне не было ніводнага дзеючага храма.

**Мёры.** Паэтычны зборнік "На ўсе вякі" ўраджэнца раёна Сяргея Панізніка выдалі ў сталіцы на 3 мовах: апроч беларускай, у перакладзе на англійскую і французскую мовы.

**Віцебск.** Вядучым музычнага бітлз-фестываля "Воблакі-воблака" 17-19 чэрвеня ў Летнім амфітэатры згадзіўся быць вядомы расійскі тэлевядучы Дзмітрый Дзіброў.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Загадкавая магіла на Копцеўцы

■ Уладзімір Скрабатун

**Гэта быў 1997 год. Тады прадставілася магчымасць тыднёвага побыту ў Варшаве. Польская фундацыя сплаціла ўсе кошты, якія з гэтым былі звязаныя, абы аўтар гэтых радкоў мог наведаць бібліятэкі і музеі ды сабраць патрэбныя дакументы для кнігі "Глыбокае на старых паштоўках". Сярод патэнцыйных аб'ектаў, дзе штосьці магло быць па гэтай тэме, мне прапанавалі наведаць Нацыянальны Музей (Muzeum Narodowy), аддзел іканаграфіі.**




**Надмагільны помнік І. Корсаку на цвінтары ў Глыбокім на Беларусі. Малюнак 1920 г. Са збораў Нацыянальнага Музея ў Варшаве.**

Паштовак з відарысамі Глыбокага і Беразвечча там не было. Ніводнай. Затое мне прынеслі некалькі альбомаў фотаздымкаў і малюнкаў даўняга Глыбокага. Папрасіў: "Калі ёсць Беразвечча, прынясіце!"

Беразвечча прынеслі. Але альбом быў амаль пусты. Пытаюся: куды дзеліся відарысы Беразвечча?

– Прыязджалі аднойчы беларусіны і ўсё забралі. Сказалі, што касцёл у Беразвеччы будуць аднаўляць,– паведаміла супрацоўніца аддзела.

Сярод альбомаў найперш зацікавіў той, дзе былі малюнкі з 1920 года, якія выкананыя алоўкам і прысвечаны Копцеўцы. Была на тамтэйшых могілках у той час і драўляная шатровая капліца, а перад уваходам на могілкі – драўляная брама.

Майму погляду прадстаў адзін малюнак, відарыс з натуры якога й сёння можна навочна ўбачыць – маленькая цагляная каплічка на схіле магільнага пагорка, а побач – крыху меншы па вышыні надмагільны помнік-каплічка.

Прыгадалася, што даўней, у школьныя мае гады, у нішы левай капліцы яшчэ была статуэтка Хрыста. Крыху ніжэй, ля падэшвы магільнага пагорка, на вуліцы Горкага, але ў межах могілак, стаяў стары пахілы дамок, дзе жылі, як казалі людзі, дзве састарэлыя манашкі.

Трымаю малюнак у руках і чытаю анатацыю да яго: "Grobowiec J. Korsaka na cmentarzu w miejscowości GŁĘBOKIE na Białorusi", inw. D.I. 185 53. На самім малюнку бачна, што на правым помніку, у нішы, напісана: "D.O.M. KORSAK…"

– А што такое D.O.M.?– пытаюся ў супрацоўніцы музея.

– Божэ, паментай о мне – па латыні,– адказала яна, нават паўтарыўшы тое на мове арыгінала.

Корсак? Які? Пад літарай "J" можа схавацца хто заўгодна: Jan, Jerzy, Józef…

І, нават, калі і Józef (Іосіф, Язэп), то гэта яшчэ й не факт, што там пахаваны менавіта Язэп Корсак, ваявода Мсціслаўскі і староста Дзісненскі, уладальнік паўночна-ўсходняй часткі Глыбокага і Беразвечча, фундатар трох глыбоцкіх храмаў (трэці быў у Беразвеччы). Можа быць і яшчэ нейкі цёзка па імені й прозвішчу.

Малюнак надмагільнага помніка выкананы досыць схематычна, не падрабязна, і надпіс на шыльдзе пададзены скарочана. Аднак да малюнка прыкладзена кароткае апісанне. Надпіс чытаўся так: "D.O.M. І.Корсак божага году…" Далей – ужо не чытэльна.

Сам загаловак над малюнкам паведамляў: "Глыбокае. Надмагілле І. Корсака. Са збораў Рышарда Біскага, красавік 1927 г." Да малюнка асобна быў прыкладзены тэкст, які напісаны чарнілам на аркушы "школьнай паперы ў лінейку": "Глыбокае, павет Дзісненскі, 1920 г. Надмагілле І. Корсака на цвінтары". Аўтар малюнка апісвае помнік так: "Гэта – тып каплічкі з бляшаным дахам. Слуп унізе пераходзіць у гранёны чатырохкутнік, у якім месціцца бляха з ледзь чытэльным надпісам: "І. Корсак божага году…"

Звяртае на сябе ўвагу, што малюнак выкананы ў 1920 годзе. Гэта яшчэ не быў для Глыбокага г.зв. "польскі час". Аднак вайсковыя дзеянні паміж Польшчай і Савецкай Расіяй ужо былі прыпыненыя і вялася падрыхтоўка да заключэння мірнай дамовы. Палякі былі ўпэўненыя, што Глыбокае адыдзе да іх, і, праўдападобна, ужо пачыналі праводзіць тут гісторыка-краязнаўчыя даследаванні. "Польскі час" для Глыбокага пачаўся з 18 сакавіка 1921 г., калі была падпісаная Рыжская мірная дамова. Глыбокае на 18 гадоў перайшло да Польшчы. Аднак за "польскім часам" гэты помнік – некаму з Корсакаў – ужо нідзе "не ўсплываў". Праўдападобна, на шыльдзе ўжо нічога не чыталася. Пра помнік забыліся. Малюнкі апынуліся ў прыватнай калекцыі (Рышарда Біскага), а потым ў Нацыянальным Музеі ў Варшаве.

Натуральна, нас цікавіць, ці можа гэта быць пахаваннем слыннага глыбоцкага фундатара – Язэпа Корсака?

Што мы ведаем з гісторыі? Прах Язэпа Корсака знаходзіўся ў сутарэннях глыбоцкага касцёла кармелітаў. Пасля падаўлення паўстання 1863 года настаці цяжкія часіны…

"Больш за два стагоддзі спачываў тут ваявода І. Корсак. Але крыпта была пустой, не ўцалеў прах ад жорсткасці людской. Румбальт Полацкі паведамляў, што падчас перабудовы касцёла пад царкву прах быў выкінуты з катакомбы. Загорнуты ў кармазінавую апанчу, якая добра захавалася, двое сутак ён мок пад адкрытым небам на цвінтары, пакуль над прахам польскага сенатара не злітаваўся гаспадар з бліжэйшага маёнтка Літоўшчына і не пахаваў у зямлі. Дзе? Невядома! Сёння пра ўсё гэта забыта, завяшчанне Корсака не прызнана", – такую сумную рысу падвёў Атон Гедэман, аўтар кнігі пра гісторыю Глыбокага часоў Рэчы Паспалітай. Чаму пра месца перапахавання Я. Корсака нічога не вядома? Гедэман адказвае: "Страшныя былі часіны. Нават самыя блізкія родзічы вымушаны былі маўчаць".

У вышэйпераказаным тэксце ёсць дзве ключавыя фразы…

Першая: "Двое сутак ён мок пад адкрытым небам на цвінтары". А дзе той цвінтар, на якім ён "мок пад адкрытым небам"? Я схіляюся да думкі, што гэта была Копцеўка. Зразумела ж, што не на праваслаўных могілках Дуброва. Лагічна – на каталіцкіх, на Копцеўцы.

Другая ключавая фраза – "пакуль над прахам … не злітаваўся гаспадар з бліжэйшага маёнтка Літоўшчына і не пахаваў у зямлі". А каму належала Літоўшчына? Корсакам!

Мог жа гаспадар маёнтка пахаваць прах Язэпа Корсака і ў Літоўшчыне! Якія "страшныя ні былі б часіны" – ну, не ў лесе ж перапахавалі фундатара! Зразумела, на могілках. Вось толькі дзе? На Копцеўцы, ці ўсё ж у Літоўшчыне? Літоўшчына цяпер – частка вёскі Мярэцкія, як і Беразвечча – Глыбокага.

Упершыню матэрыял на гэтую тэму – "Магіла фундатара" – быў апублікаваны ў газеце "Веснік Глыбоччыны" ў № 49 (7631) за 27 чэрвеня 1997 года. Скажу адразу: ён не выклікаў хаця якога рэзанансу ў грамадстве. І на тое шмат прычынаў. У касцёле ксяндзы мяняюцца "як пальчаткі". Казаў пра тое Кшыштафу Мікалайчыку. Ён абяцаў заняцца пошукамі далейшых звестак, наведваючы Варшаву. Аднак Кшыштаф з'ехаў да неграў у Афрыку… Казаў іншым глыбоцкім ксяндзам, але і гэтыя разбегліся…

Іншая прычына – ідэалагічная. Не, раённы аддзел ідэалогіі тут не пры чым. Ідэалогія – у галовах людзей! Шмат хто называе Язэпа Корсака здраднікам. Маўляў, перайшоў з праваслаўя ва ўніяцтва. Можна шмат дыскутаваць на гэтую тэму, але паспрабуй кагосьці пераканаць, што ў часы Язэпа Корсака тут не было аніякай Беларусі, а была Літва, а беларусы называліся літвінамі. Маскавіты рабілі набегі на нашу зямлю, палілі гарады і вёскі, забівалі нашых людзей. Не дзіва, што ўсе літвіны (беларусы) у большасці сваёй перайшлі ва ўніяцтва. Якое тут праваслаўнае брацтва, калі іншыя праваслаўныя прыйшлі ў твой дом забіваць цябе!

Для большай пікантнасці дадам некалькі фактаў, якія ў нас чамусьці ў кнігах і газетных публікацыях замоўчваюцца. У 1610 г. Язэп Корсак браў удзел у бітвах за Смаленск, потым у выправах Уладзіслава IV на Маскву. У 1633 годзе ў часе вайны за Смаленск наняў за свой уласны кошт войска і бараніў на яго чале дзісненскі замак ад маскалёў. Уладзіслаў IV слаў да яго з абозу з-пад Смаленска лісты і ўніверсалы аб дапамозе жаўнерамі, правіянтам і амуніцыяй… І, дарэчы, на сойме 1638 года Я. Корсак атрымаў зварот коштаў, якія ён выдаткаваў на жаўнераў і абарону Дзісны. Ну, тут ужо Я. Корсак выглядае калі не зацятым беларускім нацыяналістам, дык героем і патрыётам Рэчы Паспалітай дакладна.

Аднак вернемся да тэмы. Аўтар не сцвярджае, што на Копцеўцы пахаваны менавіта Язэп Корсак, ваявода Мсціслаўскі і староста Дзісненскі, уладальнік паўночна-ўсходняй часткі Глыбокага. На тое – недастаткова фактаў, каб адназначна сцвярджаць. Пахаваны нехта J.Korsak. Верагоднасць таго, што гэта магіла слыннага фундатара – не такая ўжо і малая.

Патрэбныя новыя пошукі і даследаванні. Добра было б, каб да пошукаў падключыліся і нашыя землякі, якія цяпер жывуць за межамі краіны.

# На беразе Сэрвачы знойдзены сляды паселішча каменнага веку?

■ Кастусь Шыталь

**Многія з цікавых археалагічных знаходак робяцца зусім выпадкова. Прыкладаў гэтага багата. Некалькі дзён таму аўтар гэтых радкоў паехаў роварам на прагулку. Завітаў у Мураўшчыну – закінутую вёску на беразе ракі Сэрвач. Прыехаў, вырашыў прайсціся па ўзараным полі каля ракі.**

Раптам бачу – пад нагамі ляжыць кавалачак крэменю са слядамі апрацоўкі. Пачаў ужо мэтанакіравана шукаць – за сорак хвілінаў знайшоў восем невялікіх фрагментаў крэменю. Такія знаходкі – дастаткова верагодная прыкмета паселішча каменнага веку. У тыя часы прылады працы рабілі якраз з крэменю – бо выплаўляць металы яшчэ не ўмелі.

Патэлефанаваў археолагу Міхасю Чарняўскаму, які працуе ў Акадэміі навук і займаецца каменным векам. Распавёў пра знаходкі і месцы, дзе яны былі зробленыя. Па словах навукоўца, існаванне паселішча каменнага веку ў такім месцы выглядае вельмі верагодным. Спадар Міхась паабяцаў прыехаць, каб агледзець месца, дзе былі зробленыя знаходкі.

А колькі ж яшчэ цікавостак тоіць наша зямля?



■ Яўген Самсонаў

# Узнагароды конкурсу “Прэс-фота 2011” знайшлі сваіх уладальнікаў

**Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў другога незалежнага конкурсу “Прэс-фота Беларусі 2011″ прайшла ў Мінску ў офісе найбуйнейшага беларускага фотапартала «Знята» ў пятніцу 13 траўня.**

Конкурс беларускай прэс-фатаграфіі праводзіцца другі раз. Ініцыятар – «Прэс-фота Беларусі», найбуйнейшы беларускі фотапартал «Знята».

У журы ўвайшлі эксперты з замежных краін: шэф маскоўскага бюро Associated Press, лаўрэат шэрагу міжнародных прэмій па фотажурналістыцы, у прыватнасці, Pulitzer Prize; Ёнас Стаселіс, прэзідэнт Клуба прэс-фатографаў Літвы, старшыня саюза фотамастакоў Літвы; Рустэм Адагамаў, расійскі блогер, больш вядомы пад сваім нікам у ЖЖ як drugoi; Джэймс Хіл, англійскі фатограф, які жыве апошнія гады ў Маскве, уладальнік прэміі World Press Photo 2005; Марыя Ман, дырэктар па міжнародных сувязях і бізнесразвіцці ў European Pressphoto Agency (EPA); Яўген Казюля, старшыня НФК «Мінск», член Рады творчага саюза «Фотамастацтва»; Ганна Зекрыя, выканаўчы дырэктар агенцтва Agency.Photographer.ru; Кацпер Пемпель, фотакарэспандэнт агенцтва Рэйтэр у Варшаве; Ліза Фактар, заснавальнік Agency.Photographer.ru, Фонду «Аб'ектыўная рэальнасць», сузаснавальнік Фонду фотажурналістыкі (Масква). Беларусь прадстаўляў у журы аўтарытэтны Яўген Казюля.

Агучыў імёны пераможцаў Аляксандр Памідораў, Са звыш 2000 здымкаў, дасланых на конкурс Belarus Press Photo у 2011 годзе ад больш чым 70-ці аўтараў, у прызёры трапілі 23 удзельнікі конкурсу. Імёны Віктара Драчова, Наталлі Аблажэй, Андрэя Лянкевіча і іншых выдатных майстроў фотаздымка ўзгадваліся па некалькі разоў. А Гран-пры і камеру Canon EOS 7D нечакана для сябе атрымаў малады і вельмі таленавіты фотакарэспандэнт Сяргей Гудзілін за здымак, які ён зрабіў падчас службы ў войску. “Дэмбель непазбежны!”, – сказаў пераможца, пазуючы на фоне лепшага здымка конкурсу.

Пераможцамі і прызёрамі ў розных намінацыях прызнаныя:

**Навіны.**
**Адзіночныя фота:**
1. Васіль Фядосенка. 2. Сяргей Гапон. 3. Васіль Фядосенка
**Серыі:**
1. Наталля Аблажэй. 2. Сяргей Грыц. 3. Аляксей Мацюшкоў

**Людзі ў навінах.**
**Адзіночныя фота:**
1. Віктар Драчоў. 2. Генадзь Мажэйка. 3. Таццяна Зяньковіч
**Серыі:**
1. Аляксандр Васюковіч. 2. Андрэй Лянкевіч. 3. Віктар Драчоў / Уладзімір Грыдзін

**Партрэт.**
**Адзіночныя фота:**
1. Зміцер Кляпіцкі. 2. Алег Рубчэня. 3. Андрэй Лянкевіч
**Серыі:**
1. Сяргей Гудзілін. 2. Андрэй Лянкевіч

**Народныя традыцыі.**
**Адзіночныя фота:**
1. Наталля Аблажэй. 2. Аляксандр Васюковіч. 3. Уладзімір Мікалайчык.
**Серыі:**
1. Андрэй Лянкевіч. 2. Наталля Дораш. 3. Таццяна Зяньковіч.

**Паўсядзённае жыццё.**
**Адзіночныя фота:**
1. Сяргей Гудзілін. 2. Віктар Байкоўскі. 3. Віктар Драчоў
**Серыі:**
1. Вячаслаў Цуранаў. 2. Аляксей Бібікаў. 3. Аляксандр Міхалковіч

**Спорт.**
**Адзіночныя фота:**
1. Уладзімір Мікалайчык. 2. Віктар Байкоўскі. 3. Віктар Драчоў
**Серыі:**
1. Аляксей Сталяроў.

**Прырода.**
**Адзіночныя фота:**
1. Наталля Аблажэй. 2. Аляксандр Васюковіч. 3. Аляксей Мацюшкоў
**Серыі:**
1. Андрэй Лянкевіч. 2. Андрэй Лянкевіч. 3. Віктар Драчоў

**Мастацтва і забавы.**
**Адзіночныя фота:**
1. Вячаслаў Цуранаў. 2. Алена Жукава. 3. Наталля Аблажэй.
**Серыі:**
1. Сяргей Грыц. 2. Алена Сталярова. 3. Віктар Байкоўскі

**Намінацыя “Вяртанне”:**
Наталля Дораш за праект аб Гродна “Дом №13″.





**Гран-пры «Belarus Press Photo 2011» атрымаў фотакар «Нашай Нівы» Сяргей Гудзілін за здымак, які ім быў зроблены падчас службы ў войску.**
Мяркуючы па рэакцыі, узнагарода стала для яго вялікай нечаканасцю. «Дэмбель непазбежны!» — толькі і змог выціснуць з сябе Сяргей, пазуючы з узнагародай перад фотакамерамі.

# СУКВЕЦЦЕ ТАЛЕНТАЎ ПРАВІЦЬ БАЛЬ!

Праграма XIV Міжнароднага фестывалю народнай музыкі

## “Звіняць цымбалы і гармонік”

**3-5 чэрвеня. г. Паставы**

### Першы дзень. 3 чэрвеня (пятніца)

**18. 00 – 19. 00** – Прэс-канферэнцыя з кіраўнікамі дэлегацый, членамі аргкамітэта і журы.
*Зала пасяджэнняў райвыканкама.*

**21. 00 – 22. 30** – Урачыстае адкрыццё фестывалю з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча.
*Плошча імя Леніна.*

**22. 30 – 24. 00** – Музычна-тэатралізаванае прадстаўленне “Пастаўскі баль” з удзелам Беларускага дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля “Харошкі”.
*Плошча імя Леніна.*

**24. 00** – Святочны феерверк.
*Плошча імя Леніна.*

**00. 15 – 01. 30** – Танцавальная праграма “Танцуй разам з намі”.
*Плошча імя Леніна.*

### Другі дзень. 4 чэрвеня (субота)

**10. 00 – 11. 00** - Навукова-творчая лабараторыя з удзелам музыкантаў, кампазітараў, прафесійных і аматарскіх выканаўцаў.
*Дом культуры па вул. Станкевіча.*

**11. 00 – 16. 00** – “Горад майстроў” з удзелам народных майстроў Віцебскай вобласці.
*Плошча імя Леніна.*

**11. 00 – 14. 00** – Канцэрт калектываў мастацкай самадзейнасці Віцебскай вобласці і Пастаўскага раёна “Кірмашовыя забавы”.
*Плошча імя Леніна.*

**11. 00 – 14. 00** – Традыцыйны конкурс калектываў і асобных выканаўцаў на народных інструментах “Хто каго?”.
*Дом культуры па вул. Станкевіча.*

**17. 00 – 18. 00** – Тэатралізаванае прадстаўленне “Музыка беларускіх палацаў і сядзіб” з удзелам Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь.
*Усходні фасад Палаца Тызенгаўза.*

**20. 00 – 23. 00** – Выступленні творчых калектываў на канцэртных пляцоўках Пастаўскага раёна.

**22. 00 – 01. 00** – Маладзёжна-танцавальная праграма з удзелам ды-джэяў Віцебскай вобласці і Рэспублікі Беларусь.
*Плошча імя Леніна.*

### Трэці дзень. 5 чэрвеня (нядзеля)

**9. 00 – 10. 30** – Канцэрт класічнай музыкі.
*Касцёл св. А. Падуанскага.*

**10. 00 – 15. 00** – Выстава-продаж вырабаў народных майстроў Віцебскай вобласці.
*Гарадскі парк.*

**12. 30 – 13. 00** – Тэатралізаванае шэсце удзельнікаў і гасцей фестывалю.
*Плошча імя Леніна – гарадскі парк.*

**13. 00 – 15. 00** – Заключны гала-канцэрт фестывалю з удзелам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча, узнагароджанне пераможцаў, закрыццё фестывалю.
*Гарадскі парк.*

# Падатковымі органамі Віцебскай вобласці ў студзені-красавіку выяўлена больш чым 50 парушэнняў у сферы аказання паслуг па перавозцы пасажыраў

**За чатыры месяцы гэтага года падатковымі інспекцыямі Віцебскай вобласці праведзена больш за 50 тэматычных аператыўных праверак у дачыненні да фізічных асоб і суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці, якія аказваюць паслугі па перавозцы пасажыраў.**

Як паведамляе прэс-цэнтр Міністэрства па падатках і зборах, па выніках кантрольных мерапрыемстваў выяўлены 42 факты ажыццяўлення фізічнымі асобамі незаконнай дзейнасці без дзяржаўнай рэгістрацыі. У дачыненні да асоб, якія ўчынілі парушэнне паўторна, складзена восем адміністрацыйных пратаколаў. За ажыццяўленне незаконных перавозак ў парушальнікаў канфіскавана шэсць аўтатранспартных сродкаў агульным коштам больш чым 130 млн. рублёў. Вінаватыя прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафаў на агульную суму 4 млн. рублёў.

У ходзе аператыўных кантрольных мерапрыемстваў у дачыненні да суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці, якія аказваюць паслугі па перавозцы пасажыраў, інспекцыямі ўстаноўлена 10 парушэнняў дзейнага заканадаўства, даналічана больш чым 1 млн. рублёў падаткаў. Па выніках разгляду адміністрацыйных матэрыялаў парушальнікі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафаў на 13 млн. рублёў.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

# Нават у святы браканьеры робяць сваю чорную справу

■ А.В. Протас ,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Першыя травеньскія дні для людзей азначаюцца святамі Працы і Перамогі. Усе мы паважаем памяць нашых бацькоў і дзядоў, якія абаранялі Радзіму і захавалі для нас мір і спакой.**

Нягледзячы на святочныя дні, супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі штодня ажыццяўляюць сваю руцінную працу па ахове прыроды, спыняючы спробы браканьерства. На жаль, нават у святы браканьеры робяць сваю чорную справу, але і супрацоўнікі міжрайінспекцыі не сядзяць склаўшы рукі, а добрасумленна выконваюць ускладзеныя на іх абавязкі. Рэдкі дзень праходзіць у спакойным становішчы, штохвіліны супрацоўнікі павінны быць гатовыя да выезду на выклік. Вельмі ўдзячныя грамадзянам за дапамогу па спыненні фактаў браканьерства, усе сігналы правяраюцца, а вінаватыя прыцягваюцца да адказнасці.

Так, 7 траўня 2011 года каля 21 гадзіны 30 хвілін супрацоўнікам Глыбоцкай міжрайінспекцыі ад грамадзян паступіла паведамленне пра тое, што на рацэ Паловіца Шаркоўшчынскага раёна паблізу в. Шкунцікі двое грамадзян ажыццяўляюць незаконную здабычу рыбы пры дапамозе бродніка. Неадкладна ва ўказанае месца выбыла рэйдавая група інспекцыі і затрымала двух грамадзян, якія незаконна ажыццяўлялі лоўлю рыбы, зараз парушальнікаў чакае раённы суд.

**9 траўня! Браканьеры вырашылі, што работнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі адпачываюць, але яны памыліліся.**

9 траўня – Дзень Перамогі. Усе грамадзяне святкуюць, адпачываюць. Браканьеры вырашылі, што і работнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі адпачываюць, але яны памыліліся. Не паспелі двое жыхароў г. Паставы разблытаць сваю браканьерскую сетку каля ракі Паловіца Пастаўскага раёна, як тут жа з'явіліся супрацоўнікі інспекцыі і затрымалі браканьераў. Не думалі парушальнікі, што юшка не атрымаецца. Матэрыялы накіраваны ў Пастаўскі раённы суд.

Вялікі дзякуй грамадзянам, якія аказваюць дапамогу супрацоўнікам інспекцыі ў навядзенні парадку на вадаёмах і ў лясах раёна. Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведамляць па тэлефонах Глыбоцкай міжраённай інспекцыі : «гарачая лінія»- 8-02156- 28670 (кругласутачна), маб. тэл. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49

# Салаўі не спяшаюцца спяваць у Беларусі

**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) перанесла акцыю «Салаўіныя вечары» з 14 мая на 21 мая.**

Як растлумачыў БелаПАН спецыяліст па экалагічнай адукацыі арганізацыі Руслан Шайкін, гэта «звязана з тым, што салаўі прыляцелі пазней, чым у мінулыя гады, і спяваюць неахвотна». Апрача таго, эколаг не выключыў, што колькасць гэтых птушак у горадзе значна зменшылася.

Шайкін паведаміў, што прычынай больш позняга прылёту салаўёў у Беларусь, магчыма, з'яўляецца пахаладанне ў пачатку мая. «За апошнія дзесяцігоддзе гэта, хутчэй за ўсё, самы позні прылёт салаўёў у краіну», — сказаў ён. Паводле звестак арнітолагаў, у 80-х гадах салаўі прыляталі таксама ў першай дэкадзе мая. Затым на працягу многіх гадоў першых салаўёў можна было пачуць значна раней — у канцы красавіка-пачатку мая.



Падчас акцыі АПБ арганізуе назіральныя пляцоўкі, на якіх усе ахвотныя змогуць паслухаць салаўёў і па магчымасці паназіраць за імі.

Пляцоўкі будуць працаваць 21 мая ў Цэнтральным батанічным садзе і Мінскім заапарку.

Апрача знаёмства з салаўём, аматары прыроды змогуць пагутарыць са спецыялістамі АПБ, арнітолагамі і валанцёрамі. З дапамогай біноклеў і падзорных труб можна будзе паназіраць і за іншымі відамі птушак.

У Мінску акцыя праходзіць пры падтрымцы Мінскага гарадскога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, а таксама Рэспубліканская экалагічнага цэнтра дзяцей і юнацтва.

Вынікам «салаўіных вечароў» у Мінску будзе распрацоўка «салаўінай карты».

Паўдзельнічаць у яе складанні можа кожны жадаючы. Для гэтага, пачуўшы ці ўбачыўшы салаўя, неабходна пазваніць у АПБ і паведаміць пра месцазнаходжанне пеўчай птушкі па тэлефонах: 8 017 263 06 13, 8 017 263 01 30, velcom 8 029 101 68 87, МТС 8 029 223 06 13 або адправіць SMS-паведамленне на кароткі нумар 0841. Усе, хто адправіць SMS, змогуць скачаць рэалтон з песняй салаўя. На падставе атрыманых звестак будзе складзена «Салаўіная карта Мінска — 2011».

*БелаПАН*

# Толькі за тыдзень канфіскаваны адзін кіламетр браканьерскіх сетак

■ А.В. Протас ,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Штотыдзень супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету выяўляюць парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства, затрымоўваюць парушальнікаў у лясах і на азёрах раёна.**

Так, 11 траўня 2011 года каля 7 гадзін раніцы супрацоўнікі інспекцыі атрымалі паведамленне ад работнікаў рыбгаса «Навінкі» пра тое, што трое грамадзян спрабуюць выкрасці з сажалак рыбу. Рэйдавая група сумесна з работнікамі рыбгаса затрымала траіх парушальнікаў, усе жыхары г. Полацка. Пры затрыманні парушальнікі паводзілі сябе нахабна, дзёрзка, але адказваць прыйдзецца ўсё адно. Зараз за крадзеж 4 кг сажалкавай рыбы грамадзяне паўстануць перад судом. Як высветлілася падчас праверкі, усе затрыманыя ўжо мелі праблемы з законам. Адзін з парушальнікаў двойчы прыцягваўся супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі за браканьерства, другі адбываў пакаранне, трэці – таксама далёка не святы, больш за 10 прыцягненняў за розныя парушэнні.

Не лішнім будзе нагадаць грамадзянам, што ў перыяд вясновай забароны лоўля рыбы дазволеная толькі ў светлы час сутак і толькі адной вудай, але вельмі часта знаходзяцца рыбаловы, якія ігнаруюць закон. Як толькі парушальнікаў затрымоўваюць інспектары, пачынаюць ціснуць на жаласлівасць, казаць, што парушылі толькі першы раз і г.д., але ва ўсіх сродках масавай інфармацыі штотыдзень пішацца і гаворыцца, што можна рабіць, а што нельга. Асабліва здзіўляе, калі ловяць уначы на рацэ Дзвіна самоў вагой па 100 - 300 грам, што можна есці ў такой маленькай рыбцы – невядома, хоць у сома ёсць прамысловая мера – 70 см., меншых памерам лавіць забаронена. Толькі за мінулы тыдзень супрацоўнікамі інспекцыі затрымана трое грамадзян за дадзенае парушэнне.

Хутка наступіць лета, можна будзе выкарыстоўваць плаўсродкі, донкі, займацца падводным паляваннем, а таму супрацоўнікі міжрайінспекцыі нагадваюць рыбаловам-аматарам, дзе можна палавіць рыбу інтэнсіўным спосабам.

Паводле распараджэння Глыбоцкага раённага выканаўчага камітэта №243 ад 26 лютага 2010 г., з 1 чэрвеня бягучага года ў фондзе запасу рыбалоўных угоддзяў Глыбоцкага раёна аматарскае рыбалоўства інтэнсіўнымі спосабамі лоўлі рыбы можна ажыццяўляць у светлы час сутак на наступных вадаёмах: азёры Алойсберг, Сетаўскае, Вялец, Арэхаўскае, Мядзвёдкаўскае, Акунёўскае, Вялікі Супонец, Дварэцкае, Забельскае, Кагальнае, Вялікае, Падлазнае, Івесь, Псуя, Станульскае, Мушкат, Камінскае.

На вышэй указаных азёрах можна ажыццяўляць лоўлю рыбы ўсімі відамі інтэнсіўнага спосабу лоўлі рыбы, г.зн. з ужываннем кручкоў да 11 да 20 штук на рыбалова, лоўля рыбы на дарожку і з судоў з рухавікамі, а таксама падводнае паляванне, але толькі рыбаловам-аматарам, якія з'яўляюцца членамі РГГА БТПР і маюць дакументы аб праходжанні курсаў падводнага стралка. Усе неабходныя дакументы павінны быць пры сабе і сапраўдныя на момант лоўлі рыбы, у выпадку адсутнасці дакументаў або калі дакументы несапраўдныя (не выплачана дзяржмыта, скончаны тэрмін дзеяння квітка і г.д.) падчас лоўлі рыбы інтэнсіўным спосабам, дадзеныя дзеянні з боку грамадзян будуць разглядацца як незаконная здабыча рыбы, што цягне адміністрацыйную адказнасць па ч.1 арт. 15.35 Ко АП Рэспублікі Беларусь і накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 50 базавых велічынь з канфіскацыяй ці без канфіскацыі прылад рыбалоўства. (Касцюма для падводнага палявання, стрэльбы для падводнага палявання, лодкі, спінінга, вудаў) Просьба быць уважлівымі і пры неабходнасці звяртацца за тлумачэннямі ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і раслiннага свету. Шмат якія грамадзяне саманадзейна думаюць, што іх неправамерныя дзеянні застануцца незаўважанымі і яны змогуць пазбегнуць адказнасці, але калі парушальнікаў ловяць, пачынаецца паніка, маленне аб літасці, успамінаюць пра маленькія зарплаты і пра ўзятыя ў банках крэдыты, але ж прыродаахоўныя органы крэдытаў на незаконную лоўлю рыбы не выдаюць, а вось на аплату штрафу ці шкоды, прычыненай прыродзе, парушальнік, магчыма, будзе браць крэдыт.

Толькі за адзін тыдзень месяца супрацоўнікамі інспекцыі ў парушальнікаў канфіскавана 1 км. браканьерскіх сетак, спадзяемся, што нашы азёры сталі хоць трошкі, але чысцейшымі ад браканьераў і браканьерскіх сетак.

Лічу неабходным нагадаць грамадзянам, што забараняецца стаянка аўтатранспарту бліжэй як 30 метраў ад берагавой лініі вадаёма – штраф да 20 б.в., а таксама мыццё аўтатранспарту ў межах водаахоўнай зоны вадаёма – штраф да 20 б.в., выкідванне смецця ў водаахоўнай зоне цягне накладанне штрафу да 20 б.в.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведамляць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі : 8-02156-28470, мабільныя тэлефоны інспектараў: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС),

## МНС інфармуе:

(па стане на 17.05.2011 г.)

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 609;
Гібель людзей – 113, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 2 492 490 тыс. руб.;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 30;
Гібель людзей – 7, з іх дзяцей няма;
Урон – 209 295 470 руб.

# Чым карысная і небяспечная першая зяляніна



**У красавіку-траўні на рынкавых прылаўках з'яўляецца свежая зяляніна. Гэта першая ў годзе крыніца натуральных вітамінаў. Паколькі ўвесну нашы ўнутраныя запасы вычэрпваюцца (што выяўляецца слабасцю, дрымотай і раздражнёнасцю, праблемамі са скурай і інш.), то для кампенсавання вітамінадэфіцыту зяляніна будзе проста незаменнай.**

Акрамя вітамінаў, расліны маюць і іншыя карысныя ўласцівасці: адны здольныя папярэджваць рак і атэрасклероз, другія - спрыяць пахуданню, трэція - паляпшаць рост валасоў...

Перад купляй зяляніны папрасіце ў рынкавага прадаўца даведку лабараторыі ветэрынарна-санітарнай экспертызы. Калі дадзеныя даведкі не выклікаюць сумненняў, зяляніну можна смела браць, калі ж не - хто ведае, можа, прадукт і забруджаны.

**ПАРА ХІТРЫКАЎ**

Калі ж даведкі не было, а пятрушкі ўжо вельмі захацелася, то для абясшкоджвання патэнцыйных нітратаў можаце выкарыстоўваць такія хітрасці. Папершае, замачыце зяляніну на гадзіну ў вадзе, пасля чаго зліце. Вада "выцягне" частку нітратаў. Па-другое, дадавайце ў салаты 1-2 ст. л. вадкай лімоннай кіслаты, добра яе перамяшаўшы. Уся справа ў тым, што нітразлучэнні паступаюць у арганізм у бяспечным выглядзе і ператвараюцца ў небяспечныя толькі пад уплывам нітрабактэрый, якія заўсёды селяцца на гароднінe. Кіслата блакіруе іх размнажэнне, і небяспечнай рэакцыі не адбываецца. І трэцяе: з'ядайце свежую салату адразу пасля прыгатавання: пры захоўванні ў халадзільніку з нітратаў могуць утварыцца нітрыты, а гэты яд страшнейшы за нітраты.

**Калі не ўсцерагліся**

Дапусцім, што па нейкіх прычынах пасля з'едзенай зяляніны вы адчулі сябе нядобра. Класічныя прыкметы атручвання нітратамі: галаўны боль, слабасць. У гэтым выпадку трэба выпіць 300-400 мл халоднай вады і паспрабаваць выклікаць рвоту. Гэта мера дапаможа вывесці яд са страўніка. Незалежна ад таго, атрымалася гэта ці не, прыміце 4 таблеткі актываванага вугалю, растворaныя ў шклянцы вады. Гэта дапаможа "звязаць" нітраты. Праз 3-4 гадзіны прыём вугалю трэба паўтарыць. І яшчэ адно - не курыце.

**ПЯТРУШКА**

**Умацоўвае імунітэт.** Гэтаму эфекту пятрушка абавязана ў першую чаргу вялікай колькасці вітаміну С, а таксама мноству біяфлаваноідаў і мікраэлементаў, якія актывізуюць ахоўныя рэакцыі арганізма.

**Узмацняе крыватвор.** У пятрушцы ўтрымоўваецца вялікая колькасць жалеза - асноўнага крыватворнага элемента.

**Папярэджвае рак.** Утрымоўваецца вялікая колькасць селену - мікраэлемента, які спрыяе вывядзенню з арганізма канцэрагенаў.

**Павялічвае патэнцыю.** Утрымоўвае цынк, які павялічвае мужчынскае жаданне.

**Супакойвае.** Магній, які ў вялікай колькасці змяшчаецца ў пятрушцы, супакойвае нервы і здымае бяссонніцу.

**Змяншае узровень цукру ў крыві.** Рэчыва інулін, якое змяшчаецца ў пятрушцы, змяншае ўзровень цукру ў крыві, з-за чаго гэту зяляніну карысна мець у сваім рацыёне хворым на дыябет.

**Умацоўвае косткі.** Кальцый і фосфар, якімі багатая пятрушка, умацоўваюць косткі.

**Карысная цяжарным.** Пятрушка - натуральная крыніца фаліевай кіслаты - вітаміна, які спрыяе нармальнаму развіццю плода.

**РАДЫСКА**

**Папярэджвае ўтварэнне камянёў, спрыяе пахуданню.** Радыска багатая на раслінныя ферменты, якія дапамагаюць лепш засвойваць бялковую ежу, узмацняюць абмен рэчываў. А гэта важна для тых, у каго ёсць лішняя вага.

**Надае сіл.** Радыска аказвае агульнаўмацавальнае дзеянне (надае сіл, паляпшае адхаркванне і інш.) за кошт вялікай колькасці соляў калію, натрыю, магнію, кальцыю, жалеза, серы і фосфару.

**Супрацьпаказанні.** У чыстым выглядзе радыску лепш не ўжываць: вострыя рэчывы, якія змяшчаюцца ў ёй, могуць выклікаць спазм страўніка ці кішэчніка. Лепш есці ў выглядзе салатаў, запраўленых алеем. Акрамя таго, у ясе ыя ж супрацьпаказанні, што і ў зялёнай цыбулі.

**КРОП**

**Прадухіляе ўздуцце.** Эфірныя маслы кропу нейтралізуюць бурбалкі газу ў кішэчніку, дапамагаюць страваванню за кошт жоўцегоннага дзеяння.

**Умацоўвае імунітэт.** Як і пятрушка, кроп утрымоўвае вялікую колькасць вітаміна С, якому ён і абавязаны ўмацавальным эфектам.

**ЗЯЛЁНАЯ ЦЫБУЛЯ**

**Спыняе атэрасклероз.** Рэчывы аліцын і бэта-сітастэрын, якія ёсць ў цыбулі, перашкаджаюць адкладанню халестэрыну на сценках сасудаў.

**Папярэджвае рак.** Кверцатын, які змяшчаецца ў цыбулі, выводзіць канцэрагены.

**Чысціць кішэчнік.** За кошт вялікай колькасці пектынавых валокнаў цыбуля дае добры эфект ачысткі кішэчніка.

**Умацоўвае імунітэт** таксама за кошт вялікага ўтрымання вітаміна С.

**Супрацьпаказанні.** Нельга ўжываць пры панкрэатытах, халецыстытах, гепатытах, запаленнях страўніка і кішэчніка.

**САЛАТА**

**Умацоўвае імунітэт** за кошт вітаміна С.

**Супрацьпаказанні** салату нельга ўжываць людзям з аксалатнымі камянямі ў нырках ці са схільнасцю да іх утварэння.

# Колькі гадоў захоўваюцца спецыі?



■**Дыяна Петрасян**

У вас таксама стаіць ў шафцы над плітой антыкварны перац гарошкам? Састарэлая заправа "Рыбацкая" і перададзеквоны вам яшчэ ў пасаг чырвоны молаты перац у паўлітровым слоіку пад поліэтыленавым вечкам?

У мяне - стаіць.

Выкінуць шкада, кажуць, у старажытнасці за перац людзі ваявалі і гінулі. А выкарыстоўваць страшна, таму што колькі захоўваюцца спецыі - я паняцця не маю.

Што ж, за патрэбнай інфармацыяй адпраўляюся ў Гугл.

Аказваецца, не толькі ў мяне і маіх суайчынніках гадамі пыліцца на палічках набытыя калісьці ў запас перцы і базілікі.

І не толькі я пагардліва стаўлюся да тэрмінаў захоўвання, паказаных на пакаванні. Аказваецца, ёсць яшчэ людзі, якія чахнуць над старымі спецыямі, як Кашчэй над золатам: выкінуць сіл няма, а выкарыстоўваць - адваргі бракуе.

І вось што раяць навукоўцы такім людзям (і мне заадно):

**Мускатны арэх, карыца і куркума** спакойна захоўваюцца да трох гадоў;

**Сушаная трава (базілік, арэгана, пятрушка)** - два гады;

Любыя міксы тыпу "для свініны" ці "для фаршу" - год;

**Гваздзік, перац, палачкі карыцы** - чатыры гады;

**Мак і кунжут** - два гады;

**Любое іншае насенне** - чатыры гады;

**Ванілін** - вечна.

Акрамя гэтых тэрмінаў, ёсць яшчэ два буржуазныя народныя спосабы праверыць прыдатнасць спецый: вадзяны і паветраны.

Вадзяны: спецыі, заліваем кіпенем. Настой павінен мець яркі вызначаны колер. Калі вадзіца стане шэрай - спецыю пара выкідваць.

Паветраны: проста нюхаецца. Водару няма - значыць, і спецыі няма. Калі пах захаваўся, але слабы, проста дадавайце ў страву ў два разы больш заправы.

Захоўваюць спецыі ў прахалодным сухім месцы далей ад пліты, у невялікіх слоічках ці скрыначках.

Не рэкамендуецца купляць разрэкламаваныя дарагія спецыі ў вялікіх стограмовых прыгожых бутэльках - гэтулькі вы ўсё адно не з'ясце на працягу тэрміна прыдатнасці.

Захоўваць - яно, вядома, добра. Але свежэйшае заўсёды лепш.

# Чаго не трэба есці, каб не было пякоткі

**Прыступ могуць справакаваць кава, сокі і нават гародніна. Правільнае сілкаванне і выключэнне з паўсядзённага рацыёну некаторых прадуктаў дазваляе хутчэй пазбавіцца ад непрыемных сімптомаў пякоткі.**

• Напоі, якія змяшчаюць кафеін;газаваныя воды; фруктовыя сокі; спіртныя напоі; таматы і прадукты з іх; белакачанная капуста, рэдзька, цыбуля рэпчатая; шакалад; семечкі, арэхі; макароны; чорны хлеб; торты, піроэкныя; кіслая садавіна.

Людзям, якія часта пакутуюць на пякотку, рэкамендуецца шмат піць, прымаць ежу варта невялікімі порцыямі, 4-5 разоў на дзень.

**Карысныя парады**

• Не злоўжывайце моцным чаем і кавай, адмоўцеся ад газаваных напояў, вельмі гарачай ці вельмі халоднай ежы.

• Не насіце цесны адзежы і не зацягвайце пояс (здушванне жывата можа справакаваць "вяртанне" ежы са страўніка ў стрававод).

• Не прымайце гарызантальнага становішча адразу ж пасля прыёму ежы.

• Спіце на высокай падушцы.

Больш поўную інфармацыю пра схему сілкавання і дыету пры пякотцы вы можаце атрымаць, звярнуўшыся да дыетолага ці гастраэнтэролага.

*Па матэрыялах www.likar.info*

# Карысныя ўласцівасці чорнага чаю



Навукоўцы выявілі яшчэ адну карысную ўласцівасць чорнага чаю. Аказваецца, ён здольны прадухіліць развіццё цукровага дыябету. Чорны чай утрымоўвае актыўныя паліфенолы, якія здольныя выконваць функцыі інсуліну.

Навукоўцы раяць пры ўжыванні ў ежу ласункаў (асабліва дзецьмі і падлеткамі) запіваць іх менавіта чорным чаем. Не варта даваць чай маленькім дзецям да 5-6 гадоў.

Пры запіванні салодкага чорным чаем змяншаецца рызыка згубнага ўздзеяння цукру на арганізм, бо карысныя ўласцівасці чорнага чаю дапамагаюць засваенню салодкіх страў.

## ІМЯНІНЫ

**19 траўня**
**Пр.:** Дзяніса.
**К.:** Мікалая,Іны, Пятра.

**20 траўня**
**Пр.:** Антона, Давыда, Зянона, Івана, Іосіфа, Міхаіла, Ніла, Сідара, Сцяпана, Фадзея.
**К.:** Базыля,Хрысціны, Аляксандра, Тодара, Вікторыі, Бернардына.

**21 траўня**
**Пр.:** Івана, Арсенія, Пімена.
**К.:** Віктара, Канстанцыі, Монікі, Цімафея, Яна.

**22 траўня**
**Пр.:** Ісая, Іосіфа, Мікалая.
**К.:** Алены, Рыты, Юліі, Урбана, Рамана, Эміля, Яна.

**23 траўня**
**Пр.:** Таісіі, Анісіма, Купрыяна, Сімона.
**К.:** Івоны,Рэнаты, Міхала, Яна.

**24 траўня**
**Пр**.: Іосіфа, Аляксандра, Нікадзіма, Кірылы, Мяфодзія, Расціслава.
**К.:** Жанны, Магдалены, Марыі, Вінцэнта.

**25 траўня**
**Пр.:** Якава, Ірыны, Абрама, Германа, Дзяніса, Пятра.
**К.:** Аляксандры, Наталлі, Эрыка, Яна, Віялеты, Барыса, Лявона, Рыгора

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Система блоков для подъема тяжестей | | Столовый прибор | | Историческая область в Испании | Героиня сказки Льюиса Кэрролла | Река во Франции | Движение танца | Русская мера веса | Потухший вулкан в Турции |
| Тропический плод | | | | | | | Звезда в созвездии Большая Медведица | | |
| Охота с сетями, ловушками | | | | Полуобезьяна | | | | | |
| | | | | Египетская богиня | | | | | |
| Вязкая густая жидкость | Производственная группа | Буква кириллицы | | Поэма Михаила Лермонтова | | Старое название Бирмы | | Пьеса Максима Горького | |
| Русский зодчий | | | | | | Казацкий двор | | | |
| | | | | | Родственник | | | | |
| Заменитель, суррогат | | Остров в Индонезии | Тропическое растение | | Город в Белоруссии | | Мушкетер Александра Дюма | | Город на севере Франции |
| Утконосый динозавр | | | | | | | | | |
| Государство в Северной Африке | | | | | | Греческая буква | | | |
| Нидерландский художник 17 века | | | | Оконная занавеска | | | | | |
| Цель брахманской этики | | | | | | Рассказ Ивана Бунина | | | |

**Ответы на сканворд№ 19**
**По горизонтали:** Осадок. Во. Раб. Сонет. Кедр. Оникс. Малодушие. Зарок. Шест. Саванна. Треси. Ура. Раж. "Варяг". Отара. Ада. **По вертикали:** Море. Забрало. Сад. Осоед. Кон. Век. Отсвет. Ницше. "Маэстро". Ар. Окрас. Ушан. Иск. Арат. Вежа. Нива. Аура. Сага. Ряд.

## ГАРАСКОП
### на новы тыдзень

**АВЕН.** Верагодна з'яўленне новых правілаў у дзелавых адносінах з партнёрамі. Гэтыя змены спачатку могуць турбаваць, але пасля паспрыяюць вырашэнню пытанняў наконт працаўладкавання. Для тых, хто гатовы да нечаканасцяў, тыдзень пройдзе звычайна. Толькі не трэба браць ніякіх фінансавых абавязкаў, не даваць і не браць у доўг. Вельмі важна прытрымлівацца балансу паміж зарплатай і выдаткамі.



**ЦЯЛЕЦ.** Будзьце больш уважлівымі ў фінансавых пытаннях. Асабліва калі яны датычаць перамоў і абмеркаванняў. Неасцярожны зварот з фінансавай інфармацыяй можа выклікаць праблемы ў партнёрскай сферы. Лепш не адпраўляцца ў паездкі і камандзіроўкі. Жыццёвыя сілы саслаблены, таму магчымы млявасць, нежаданне сустракацца і кантактаваць з акружаючымі. У другой палове тыдня магчымы памылкі ў разліках. Зменшыце фізічную нагрузку на арганізм.



**БЛІЗНЯТЫ.** Актуальныя праблемы ў дзелавых адносінах (вас яшчэ чакае інфармацыя адносна гэтых падзей). У той жа час можна разлічваць і на падтрымку ў гэтай сітуацыі, асабліва з боку тых, каму вы давяраеце. Трэба рыхтавацца да татальных пераваротаў у справах і да змены начальства. Можаце трапіць у нязручнае становішча ў пятніцу. У канцы тыдня ў вас з'явіцца жаданне кагосьці павучаць. Пазбягайце непажаданых сустрэч.



**РАК.** Удалы перыяд для наладжвання партнёрскіх сувязяў і адносін. Вы зможаце эфектыўна працаваць з навуковай і фінансавай інфармацыяй. Але зараз бракуе актыўнасці, паколькі ўсе сілы ўжо былі аддадзены працы. Інтуіцыя падкажа, дзе крыніца вашых хваляванняў. Часцей бывайце на паветры, будуць турбаваць атрыманыя напачатку месяца траўмы.



**ЛЕЎ.** Верагодна, вы разыйдзецеся ў поглядах з калегамі па працы. Некаторыя ўмовы ў фінансавых адносінах не будуць выкананы. Відавочна, у будучыні ўсё-ткі некаторыя правілы прыйдзецца перагледзець. Вялікая рызыка сутыкнуцца з фінансавымі цяжкасцямі. Сцеражыцеся траўмаў каленных суставаў.



**ПАННА.** Прыняцці самастойных рашэнняў у працоўных справах запатрабуе асцярожнасці. У далейшым сітуацыя можа скласціся так, што будзе складана адстойваць свае інтарэсы. Вельмі цікавымі абяцаюць быць сустрэчы з партнёрамі, якія ў сярэдзіне тыдня могуць моцна паўплываць на лёс і перспектывы бізнесу. Можа з'явіцца магчымасць паехаць за мяжу ці ў далёкую камандзіроўку.



**ШАЛІ.** Працуючы з інфармацыяй, будзьце больш уважлівымі, магчымыя памылкі. Можа праявіцца фізічная стомленасць на фоне расчаравання, немагчымасць выконваць нейкія абавязкі. На працы чакаецца ўздым. Другая палова тыдня дазволіць атрымаць максімум пазітыўнага ў прафесійнай сферы ці бізнесе. Правярайце сумяшчальнасць медпрэпаратаў, павышана небяспека ўзнікнення алергій.



**СКАРПІЁН.** У перамовах галоўнае – разумець тактыку і стратэгію партнёраў. Іх жаданні могуць не супадаць з некаторымі звыклымі для вас правіламі. Ваша асабістая ацэнка гэтай сітуацыі можа быць трохі перабольшанай. Знаходзіцца ў змрочным настроі проціпаказана. Меланхолія пацягне за сабой дэпрэсію і стане прычынай шматлікіх, часта беспадстаўных страхаў. Як ніколі, вы будзеце мець патрэбу ў падтрымцы родных і сяброў. Хочаце павялічыць жыццёвы тонус - ешце сезонную садавіну.



**СТРАЛЕЦ.** Удалы час для кіраўнічай і камерцыйнай дзейнасці. Актыўна змогуць вырашацца бягучыя дзелавыя пытанні. Аднак рашэнне гэтых праблем наўрад ці зможа сур'ёзна паўплываць на ваша становішча ў цэлым. На службе могуць быць трэнні. Бліжэй да канца тыдня сачыце, каб сітуацыя не выйшла з-пад кантролю. Адмоўцеся ад гарачыльных напояў і сцеражыцеся апёкаў.



**КАЗЯРОГ.** Зараз складана фармуляваць нейкія стратэгічныя заданні на бліжэйшы час. Таму пакуль лепшая тактыка - вырашаць бягучыя пытанні і цярпліва чакаць, пакуль не з'явіцца штосьці значнае. У другой палове тыдня лёгка зробіце нашмат больш працы, чым заўсёды, заклаўшы асновы сваёй будучай кар'еры. Час пазбавіцца ад лішняй вагі. Займіцеся карэкцыяй фігуры.



**ВАДАЛЕЙ.** Можна чакаць нейкіх прэтэнзій партнёраў (ці канкурэнтаў) з нагоды вашай кіраўнічай дзейнасці. Аднак у цэлым вы досыць абаронены, таму любыя праблемы могуць выглядаць толькі як прыкрае непаразуменне. Да сярэдзіны тыдня ўсе справы трымайце пад кантролем, а першыя прыкметы хваробы ў арганізме не ігнаруйце. Якасна харчуйцеся.



**РЫБЫ.** Ваша праца ўвесь тыдзень будзе залежаць ад душэўнага ўздыму і дабрага настрою. На службе праяўляйце ініцыятыву, прафесійная дзейнасць ідзе ўверх. У рамантычных справах - невялікая паўза. Але гэта не азначае, што любоўных адносін не будзе наогул, хутчэй за ўсё, чакаецца стабільнасць. У другой палове тыдня беражыце грошы, здароўе, нервы і сон. На гэты час не варта планаваць папаўненне ў сям'і.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі № 1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.

"Вольнае Глыбокае"
Заснавальнік:
Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб`ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 17. 05. 2011года ў 21[05]

«Вольнае Глыбокае» надрукавана на газетнай паперы РВУП **«Завод газетнай паперы» (г. Шклоў).**

Наклад 2000 паасобнікаў

**Рэдактар :**
**Уладзімір Іванавіч Скрабатун.**
**тэлефон / факс**: (02156) 2 46 14;
**E-mail**: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў:
**211800 г. Глыбокае п/с 3**

Замова № 1815

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "Вольнае Глыбокае" абавязковыя.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк.

Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, ком.1, г. Глыбокае.

ISSN 2077-8023

